# ВЯЛІКІ ПАХОД.

Наша маладое ленінскае пакаленьне пачало надзвычайную па велічы і сур'ёзнасьці работу. Дагэтуль яшчэ шмат хто лічыў піонэраў, як добрых барабаншчыкаў. Здавалася-б нават і несапраўдным якое-колечы прыпушчэньне, што дзеці змогуць працаваць практычна, працаваць з посьпехам і працаваць па-сур'ёзнаму.

Аджа абвешчаны комсамолам культурны паход шырока ўскалыхнуў і піонэрскую організацыю. Як разварушаныя мурашкі, зашавялілася дзетвара. Зашавялілася адразу, паўстала, каб гуртам, колектыўна зрабіць нешта значнае, вялікае для нашай беднай яшчэ, параўнаўча, някультурнай краіны.

Цікава тое, што кожны атрад выступае ў паход з зусім яснай канкрэтнай мэтай. Пэўнае заданьне павінна быць дасягнута!—гэтак вырашае справу кожны атрад, які выступіў у паход.

На жаль, мы ня маем вестак з усёй Беларусі. Але культурны рух піонэраў Меншчыны, Мазыршчыны зьяўляецца даволі паказальным і характэрным.

Атрады не паважаюць больш туманных трохмэтравых плянаў, пабудаваных фантазыяй якога-небудзь павадыра. Маленькае, просьценькае заданьне, выкананае атрадам, лепш за сотню вялікіх распачатых і няскончаных. Бо калі мы колектыўна ва ўсіх кутках нашага Саюзу зробім кожны пэўную маленькую працу— увогуле з гэтай працы складзецца моцны падмурак для высокага будынку.

Баявым заданьнем шмат якія атрады Меншчыны паставілі ліквідацыю няграматнасьці. І вось піонэры і школьнікі шчыра і рупліва аддаюцца гэтай рабоце. Яны з алоўкам і запісной кніжкай у руках бегаюць па ўсіх кутком гораду, шукаюць, дзе хто яшчэ жыве няпісьменным. А гэткіх яшчэ шмат, нават дзяцей.

*„Атрад імя Домбаля (Менск) знайшоў 15 няпісьменных дзяцей“.*

*„Пятая школа (Менск) уцягнула аднаго няпісьменнага ў школу“* і г. д.

Поруч з гэтым заданьнем ідуць іншыя, але ўсе яны накіраваны на паляпшэньне быту або самога атраду ці школы, або грамадзтва.

Пытаньні культурнага здаровага жыцьця піонэрамі вырашаюцца жыва, талкова і дзелавіта.

Ну, хто-б мог дадумацца да такога дасканалага спосабу адвучыць свайго бацьку ад гарэлкі, як піонэрка з 11-га атраду? Гэты спосаб вельмі орыгінальны і цікавы. Дзяўчынцы, відаць, добра даўся ў знакі вечна п'яны бацька. Яна пускаецца на такія хітрыкі. Калі бацька яе пасылае ў амбуляторыю за пропускам, яна карыстаецца гэтым выпадкам і просіць доктара, таб той „адбіў ахвоту ў бацькі да гарэлкі“. А дактары, часамі, умеюць гэта зрабіць! І што-б вы думалі? Вынік атрымаўся вельмі добры.

(*Канец гл. на ст. 24*).

---

## ЗЬМЕСТ


1. Свабода Агнёва—апав. **Н. Беліка-Падгаецкага.**
2. Змаганьне—казка **Астапенкі.**
3. На Алтаі—нарыс **Кажэўнікава.**
4. Карцёжнікі—верш.
5. Комсамолія—артыкул з гісторыі Комсамолу.
6. Наша газэта.
7. Сенька-бяспрытульнік—нарыс **М. Гельфорса.**
8. Як яны злуюць—нарыс з жыцьця драпежных зьвяроў.
9. Вожык.

**Вокладка**: 2-я ст.—Вялікі паход; 3-я ст.—Аб усім патроху; 4-ая ст.—Падумай.


---


Рэдколегія: **БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х. ЯКІМОВІЧ А.**

Адказны рэдактар **А. ПЯКАРЧЫК.**

*Год выданьня 4-ты.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
" 3 " . . . — р. 60 к.
" 6 " . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, Орган ЦКЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 21** **ЛІСТАПАД** **1928 г.**

*Першую навуку сын атрымлівае дома ад бацькі.*

# Свабода Агнёва

*(Апавяданьне)*

Над горадам панаваў белы тэрор. Па вуліцах і завулках, галоўным чынам, рабочых кварталаў, хадзілі узброеныя банды цанкоўскіх паліцэйскіх *). Па кватэрах яны шукалі рэволюцыйных дакумантаў. Расстрэльвалі ўсіх, на каго хоць крыху падазравалі або знаходзілі якуюнебудзь зброю ці забароненую літаратуру.

Рабочы Агнёў—сьлёсар аднэй з майстэрняў гораду; ён энэргічны член баўгарскай компартыі. Ужо тры дні Агнёў не зьяўляўся ў сваю кватэру. Ён быў заняты падпольнай працай у раённым камітэце.

Некалькі разоў на працягу гэтых крывавых дзён паліцыя рабіла пошукі на яго кватэры. Перавярнула ўсё „дагары нагамі" і патрабавала ад маладой жонкі сказаць, дзе муж.

*) Цанкоў—вядомы баўгарскі міністар, душыцель компуху.

— Дзе твой муж?—у соты раз задаваў ёй пытаньне начальнік паліцэйскага атраду, закручваючы ёй на сьпіну рукі і пагражаючы рэвольвэрам:—Кажы зараз-жа, а то застрэлю цябе на мейсцы, як сабаку!

— Я ня ведаю!—плачучы, адказвала змучаная жанчына, просячы бяздушных паліцэйскіх пакінуць яе ў супакоі.

Яна сапраўды ня ведала, дзе знаходзіўся ў гэты час яе кармілец, але каб і ведала, то ня выдала-б яго.

— Усё роўна зловім—ня вырвецца!—злосна гаварылі паліцэйскія і выходзілі з кватэры. Пры гэтым кожны раз забіралі з сабой што-небудзь хоць крыху каштоўнае.

* * *

— Мама, дзе тата? Чаго хочуць ад нас гэтыя злыя людзі?—пыталася ў Агнёвай яе 10-цігадовая дачка Свабода. Горка плачучы, яна тулілася бліжэй да матчыных грудзей.

— Маўчы, дзіцятка, маўчы!—супакойвала яе матка:—бацька працуе, ён хутка вернецца і прынясе табе гасьцінца.--А сама з жудасьцю глядзела на дзьверы, больш за ўсё баючыся яго звароту. Бо яна ведала, што ля дзьвярэй пільнуюць шпіёны. Яны заразжа паведамяць, куды патрэбна...

То там, то тут, удзень і ноччу, залпы аружжа ясна гаварылі ёй, што на зьмілаваньне спадзявацца ня прыходзіцца.

Нарэшце, у адзін позны вечар ён пры-



*Свабода схапіла пакет і кінула ў печку.*



*...і была прыстрэлена паліцэйскім.*

шоў дамоў. Змораны, з сінімі плямамі пад вачыма ад бяссонных начэй, прышоў ён і, цяжка апусьціўшыся на зэдаль, бясконца глядзеў на жонку і дачку.

— Вось, Марыля,—сказаў ён жонцы,—схавай гэта дзе-небудзь у добрым мейсцы.—І аддаў ёй, моцна абвязаны шпагатам, пакет з сакрэтнымі дакумантамі рэволюцыйнага камітэту.

— Ага, папаўся галубок!—і з грукатам зьляцелі дзьверы з жалезных завесаў. У кватэру ўвалілася некалькі паліцэйскіх.

— Свабода! Палі паперы!—закрычаў Агнёў сваёй дачцы, адбіваючыся ад паліцэйскіх.

Ня трацячы ні хвілінкі, Свабода схваціла маленькімі рукамі са стала пакет з сакрэтнымі дакумантамі і з ўсёй сілы кінула яго ў палаючую печку.

— Праклятае дзіця!—закрычаў начальнік атраду і з усяе сілы выцяў яе бізуном па плячах.

Але справа была зроблена. Паперы ўжо гарэлі яркім полымем. Потым паліцэйскія пачалі біць усю сям'ю.

Нагледзеўшыся на гэты малюнак, Свабода Агнёва і цяпер ня можа прыйсьці ў сябе.

Доўга, бяз усякай трывогі, білі бацьку, патрабуючы, каб ён расказаў паліцэйскім, што было напісана ў спаленых дакумантах. А потым, убачыўшы, што з гэтага нічога ня выйдзе, вывелі на двор, і пры сьвеце ліхтара расстралялі...

— Бывай, жонка! Бывай, дачка! Няхай жыве комунізм!—крыкнуў Агнёў перад сьмерцю. Пасьля забойства стойкага рэволюцыянэра паліцэйскія зноў вярнуліся ў кватэру. Зноў пачалі біць жонку. Марыля, сьцяўшы зубы, маўчала. Пасьля расстрэлу свайго мужа яна бязбоязна аднеслася да злосных слоў і балючых бізуноў разьюшаных паліцэйскіх. Нарэшце, ня вытрымаўшы пабояў, яна кінулуся на зямлю і была прыстрэлена з рэвольвэра паліцэйскімі.

* * *

Свабода Агнёва засталася адзінокай на сьвеце. Без дапамогі і без падтрыманьня. Пакінуўшы разбураную кватэру, яна па цэлых днёх блукалася па вуліцах вялікага гораду. Прасіла зьмілаваньня ў праходзячых, карміліся выпадкова знойдзенымі скарынкамі хлеба. Ёй ніхто не памагаў, баючыся нянавісьці з боку паліцэйскіх. Праўда, былі ўсё-ж добрыя людзі. Гэта былі такія-ж рабочыя, як і яе нябожчыкі-бацькі. Яны давалі ёй прытулак, бяручы нанач, клалі спаць на падлозе, дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, але такіх людзей было вельмі мала. Такі быў вялікі страх, нагнаны белым тэрорам!

Між іншым, гэты тэрор павялічваўся і павялічваўся. Усе шматлікія турмы гораду былі біткам набіты арыштаванымі. Расстрэлы адбываліся ўсё часьцей і часьцей.

Гурбамі рэволюцыянэры, рабочыя і сяляне, пакідалі краіну, кідалі ўсё, што

там мелі, пераходзячы праз межы Баўгарыі. Яны шукалі збаўленьня ў эміграцыі (пераезьдзе ў іншыя краіны).

Шмат каго з іх лавілі на граніцы і саджалі ў турмы. Шмат каго прыстрэльвалі пагранічнікі. А тым, каму ўдавалася перабрацца за мяжу з гэтага цанкоўскага пекла, тыя разыходзіліся па Эўропе, галадаючы на чужыне.

З аднэй такой партыяй бежанцаў, у цёмную васеньнюю ноч, перайшла баўгарскую граніцу і Свабода Агнёва. На сваёй, залітай кроўю, бацькаўшчыне ёй ня прыходзілася нічога шкадаваць. Там такою трагічнай сьмерцю загінулі яе бацька і матка, там яна, акром голаду і холаду, ня бачыла нічога.

На другі бок граніцы яе прытуліла організацыя МОПР'у.

Хутка Свабоду Агнёву, разам з другімі маленькімі бежанцамі, пераправілі ў Бэрлін, сталіцу Нямецкай рэспублікі. Тут яны пасяліліся ў дзіцячым доме гэтай-жа МОПР'аўскай організацыі.

Нарэшце, усё-ж Свабода Агнёва адпачыла. Ня трэба было больш думаць аб хлебе. Ня трэба было больш спаць пад плотам і баяцца кожны дзень паліцэйскіх. Ад усяго гэтага захаваў яе, як і другіх маленькіх сяброў, МОПР. Ён узяў іх пад сваю абарону, пачаў клапаціцца аб іх.

Прайшло тры гады. Дзякуючы добраму і практычнаму настаўніку, шмат чаму навучылася Свабода Агнёва. Шмат чаму навучылася, чаго ня ведала да гэтага часу. Шмат чаго зразумела, чаго не разумела дагэтуль ці смутна дагадвалася. Яна зразумела, чаму так зьдзекваліся баўгарскія паліцэйскія ў тую страшэнную ноч на іх кватэры ў горадзе Сафія. Зразумела, чаму расстралялі яе бацьку, такога добрага для яе і для ўсіх рабочых чалавека. Зразумела, чаму яе, малую, так моцна білі па плячах і па сьпіне.

Зразумеўшы ўсё гэта, яна з нязвычайнаю павагай аднеслася да свайго бацькі. Яна яшчэ больш упарта пачала абдумваць гордыя словы, кінутыя бацькам пры расстрэле: „Няхай жыве комунізм!"

І яшчэ ўведала яна за гэтыя гады, што дзесьці на далёкай поўначы ёсьць край, дзе даўно скінуты капіталістыя. Там няма паліцэйскіх, а ёсьць сапраўдная воля. Там кіруюць організаваныя рабочыя і сяляне. Там ужо 10 гадоў як існуе тое, за што памёр яе бацька і шмат другіх, яму падобных.

А калі ўведала, яе міжвольна пацягнула ў гэту чароўную краіну Саветаў. Пацягнула туды, дзе няма уціску, каб убачыць усё ўласнымі вачыма.

* * *

— У Савецкі Саюз, мы едзем у Савецкі Саюз!—маланкаю разьнеслася па бэрлінскаму Мопраўскаму прытулку. Радасьцю напоўнілася сэрца маленькіх баўгарскіх комуністых.

Хоць і даўно насіліся чуткі аб гэтай паездцы, але ніхто ў гэта ня верыў. Гэтак здавалася яна, гэта жаданая паездка, нязвычайнаю і нязьдзейсьненаю.

А тут быўшыя мары аказваюцца выкананымі, і яны ня толькі ўбачаць цудоўны край, а стануць поўнапраўнымі грамадзянамі гэтай краіны. Было ад чаго весяліцца, скакаць цэлы дзень, сьпяваць рэволюцыйныя песьні, засыпаць настаўніка пытаньнямі.

Але вось, нарэшце, прышоў жаданы дзень ад'езду. Як у сьне, мільгнула Усходняя Прусія, фашысцкая Польшча. Цягнік набліжаўся да Савецкай мяжы.

Прыветна ўсьміхнулася сьцягамі Негарэлае. Прывітала гучнымі словамі Інтэрнацыяналу, гукі якога імчаліся да нябёс. А там, познаю ноччу—Менск—сталіца вольнай Беларусі. І зноў прывітальныя гукі піонэрскіх атрадаў. І зноў рэволюцыйныя песьні, парушаючыя ціш спакойнай вясеньняй ночы.

А вось і Масква—чырвоная сталіца чырвонай, рабоча-сялянскай рэспублікі—канцовая мэта МОПР'аўскіх вандраўнікоў, маленькіх баўгарскіх дзяцей.

Скончаны вандроўкі з краіны ў краіну. Скончаны голад і холад, паліцэйскія надзоры. Тут, адпачыўшы ад перажытага, яны бадзёра прымуцца за сур'ёзную вучобу. Яны стануць вартымі сваіх бацькоў і матак.

А потым, калі вырасьце і набярэцца ведаў, Свабода Агнёва, як і большасьць яе сяброў, зноў вернецца ў сваю родную краіну. Зноў вернецца ў залітую кроўю Баўгарыю. Яна зноў будзе працягваць працу свайго бацькі, каб давесьці да пераможнага канца тую вялікую рэволюцыйную працу, за якую ён злажыў галаву.

**Н. Беліна-Падгаецкі.**




Казка *З. Астапенкі.*

Малюнкі *Ізмайлава.*

I

Зашумеў ад раньня
Цёмны лес дрымотны.
У блакітным небе—
Хмарачак палотны.

Зноўку—рух і праца.
Між травы-мураўкі
Бегаюць бясконца
Жвавыя мурашкі.

Носяць суш-травінкі,
Тонкую мураўку,
Для будоўлі шпаркай
Гораду Мурашу.

Ён-жа вунь узьняўся
Кучай на палянцы...
Няпрыгожы, праўда,
Ня бліскае ў глянцах.

Ды які вялікі!..
Рух у ім і праца.
Шмат у ім пакояў,
Вулак і палацаў.

А ў палацах пекных
Хораша ды чыста,
Бо яны для цара
Ды яго міністраў.

Іх вартуюць строга
Чорныя жандары.
Простым-жа мурашкам—
Шэрыя казармы.

Ледзь настане раньне—
Йдуць у лес вялікі
Мураўёў працоўных
Шэрагі бяз ліку...

Йдуць, а збоч дарогі,
Стаўшы стройна ў пары,
Сочаць за работай
Строгія жандары.

Каб мурашкі ў лесе,
Ўсе-усе дазваньня,
Працавалі шчыра
Ды без ленаваньня.

II

Вось і сёньня зраньня
Узьнялася праца—
Для цара патрэбны
Новыя палацы.

З цёмна 'шчэ міністры
Па усіх атрадах
Прачыталі слушна
Царавы загады:

„Ўсім маім падданым,
Мураўём слухмяным,
Гораду Мурашу
Шлю для выкананьня
Гэта прадпісаньне,
Гэту волю нашу!
Ўсім без ленаваньня
Ўраз для будаваньня
Прыступіць да працы,
Каб былі гатовы
Бяз усякіх словаў
Новыя палацы.
Тэрмін для будоўлі—
Пара дзён ня болей.
Працаваць старанна!..
Ў тэрмін скончыць гэны,
Бо іначай дрэнна
Будзе няслухмяным.
Цар Сык“.

III

Бегаюць мурашкі,
Цягнуць мох—страпілы.
Ад цяжарнай працы
Ім жыцьцё ня міла.

Адпачыць ахвота-б,
Ды стаяць жандары...
Лес шуміць дрымотна,
Нібы сьпяць гушчары.

А ў атрадах чорных,
Поруч з мураўямі—
Кучы тых пакорных,
Іх завуць рабамі.

Іх яшчэ з маленства
У палон забрала
Царава жаўнерства,
Што іх край зьнішчала.

Іх жыцьцё пагана,
Кепска у іх доля:
Век працуй на пана,
Век ты у няволі...

Іх міністраў зграя
За сваіх ня лічыць,
Бо яны ўсе маюць
Рыжае аблічча.

На чацьвёрты дзень у сэрцах
Боль-зьнямога закіпела:
Той рабочы ўжо пры сьмерці,
Той ляжыць самлелым.
І расьце ў радох працоўных
Злосьць вялікая, бяз краю,
У страёх жандараў чорных
З страхам выбуху чакаюць.

І нарэшце ў дзень чацьвёрты
Загукалі усе строем:
— К чорту цара!
Досыць зьдзекаў!!
Гэй, браты! Усе—да зброі!
Мураш шуміць, нібы ў пажары,
Па вулках чуткі папаўзьлі...
Прыбеглі жвавыя жандары,
Пакет манарху прынясьлі.



*Век працуй на пана, век ты у няволі...*

А раз гэтак, знача—
Век працуй пакорна,
Нават болей значна
За мурашак чорных!

Вось і гнуцца строем,
Што-ж ты тутка зробіш?
Каб зьмяніць жыцьцё ім,
Трэба меці зброю!

IV

Тры разы ўжо ноч шарэла.
Тры разы ўставала сонца.
Ля задумных цёмных елак
Праца йдзе бяз концa.

Цар Сык чытае ў непакоі.
Міністры шэпчуць:
— Што такое?
— Зачым трывожыць так людзей?
А цар—што час—
Бялей... Бялей...

**Паведамленьне цару Сыку**

Лес. Хваёвыя гушчары.
Канцэлярыя жандараў.
„З найвялікшым шчырым жалем
У сьвядомасьць ставім Вас,
Што рабы забаставалі
І ня хочуць працаваць.

І яшчэ, на наша гора,
Рыжакі вялікай сворай
Жандароў атакавалі
Ды ўсю зброю адабралі.
Гэта—пэўная, канечне,
Для улады небясьпечнасьць.
Хай бароніць божа Вас,
Ваш слуга—
Жандар Івась".

V

І вось на вуліцах Мурашу
Расьце вялікая трывога.
Ідуць атрады з гулкім маршам,
Жаўнеры крочаць роўна „ў ногу".
Шапочуць сосны з сінявою,
Сплятаюць з сонцам казкі-міты,
А ў лесе тым, ля Цёмнай Хвоі,
Як бура, расшумеўся мітынг.
Рабы сабраліся вакола,
З былінкі ім крычыць прамоўца:
— „Далоў цара! Далоў няволю!
Паўстанем разам на забойцаў!
Браты! Нас доўга катавалі...
Дык досыць!
Хай голас наш гучыць навалай
Пагрозы!
Нас мучылі яны з маленства,
О, ліхадзеі!..
Разьбілі нам усе дашчэнту
Надзеі.
Нас за сваіх не прызнавалі
Цары, жандары.
Затое мы цяпер паўсталі,
Як хмары.
Хай згінуць царавы пакоі
І сам ён!..
За волю ўсе са зброяй
Паўстанем!"

VI

Нібы бураю дыхнула,
Нібы ветрам калыхнула.
Нібы гольле елкі хмурай
Захісталася віхурай...
— Біс!.. Ура!.. Далоў!.. Далоў!..
— На цара і жандароў!!!
— Не шкадуем мы галоў!
— Сыку сьмерць і ўсім міністрам!
Ўсіх падушым!—Усіх чыста!
Досыць зьдзекаў і пакуты!
Ня трываем і мінуты!
Наша воля! Праца наша!
Гэй, да гораду Мурашу!
Ён узьняўся мазалямі,



*Пакет манарху прынясьлі.*

Там браты паўстануць з намі!
Душыць іх жандараў свора,
Цар—для ўсіх найлюты вораг!—
Нібы ў час глухой навалы,
Галасы бушуюць шквалам.
Ў грамадзе настрой рашучы,
У злабе народу кучы,
Шум, бы рокат баравы,
Але, што...
Паміж травы
Да усіх з вялікім страхам
Ледзь жывы, бяжыць мураха...

VII

Да зброі, браты!..
Праз лес і кусты
Я бег ад Мурашу.
У горадзе там
Хочуць паўстаць
За справу вялікую вашу!
Да вас я з лістом.
За мной па сьлядох—
Царскае войска.
Мільёнамі йдуць...
Каго стрэнуць—бяруць,
І робяць забойства.
Рыхтуйцеся вы!
Між купін травы
Будуйце завалы!
Паболей равоў!..
Сустрэнем гасьцёў
Навалай!
Чытаюць ліст паўстаўшыя рабы,
Натоўп згрудзіўся...
Слухае патайна...
І кожны твар стамлёны і грубы
Асьвечаны уздымам нязвычайным.

*(Працяг будзе).*



# НА АЛТАІ

*(Нарыс)*

## На ледавіку без праваднíка

У юрце цемнавата. Слабым полымем дагараюць на вогнішчы смалістыя дровы. Мы сядзім ля вогнішча на карачках і гутарым.

Гаспадар юрты, алтаец Коркуш, зацягнуўся з сваёй доўгай піпкі, плюнуў праз зубы і, рашуча пакруціўшы галавой, адказаў:

— Не! Мая з вамі ня едзе, мая за кабыламі едзе,—і дабавіў да гэтага некалькі слоў на незразумелай для нас ойрацкай мове.

Нам гэты адказ быў дужа няпрыемны. Увесь вечар мы падбухторвалі алтайца ехаць праваднікóм з намі на Акемскі ледавік, але, ня гледзячы на ўсю сваю ветлівасьць і гасьціннасьць, ён быў цьвёрды, як тая сьцяна. Унізе, у вёсцы, на беразе поўнаводнай і шпаркай Катуні, мы пакінулі нашых праваднікоў, нагружаных рознымі рэчамі коняй і манаткі і адны ўлегцы прыехалі сюды, маючы надзею здабыць тутака праваднíка.

Куды там! Мы папалі ў нядобры час. Алтаец едзе на пашу за коньмі.

— А можна нам адным, без праваднíка, папасьці на ледавік?—запытаў нехта з нас.

— А чаму ня можна?—зьдзівіўся Коршук,—толькі дарогу ведаць трэба,—і ён узяўся нам падрабязна тлумачыць дарогу.

З тлумачэньня мы даведаліся перш за ўсё, што дарогі, як мы прызвычаіліся яе разумець, на ледавік наогул няма, а можна папасьці туды двума шляхамі: ці йсьці ўверх па рэчышчы горнай рэчкі Акем, якая выцякае з ледавіку, ці, пераваліўшы праз горную граду, пачаць узьнімацца па нейкаму раўчуку з хітрай ойрацкай назвай.

Мы надта добра ведаем з практыкі, як цяжка езьдзіць без праваднíка па незнаёмай мясцовасьці, як цяжка знаходзіць патрэбныя рэчкі і даліны... Тым ня менш, мы парашылі паспрабаваць шчасьця, і назаўтра ледзь золак пачаць узьнімацца на ледавік.

## Першая няўдача

Коні асядланы. Яшчэ раз аглядаем, ці туга падпруга, ці добра трымаюцца клункі, і разьвітваемся з гаспадаром юрты. Крута бяжыць уверх ледзь прыкметная чорная сьцежачка. Вакол нас лістаны лес з простымі калёнамі дрэў. Пад іх сьветлым гальлём, сярод хмызьняку з бружмелю, сьпірэі, смуродзіны, раскідаліся сенажаці з высокай травой. Мокрая ад расы трава перасыпана кветкамі: ружовымі півоніямі, аранжавымі агоньчыкамі, сінімі шапкамі сінюх.

Лес повен жыцьця. Не замаўкаюць у яго гальлі шматгалосыя сьпевы, а высока, недзе на верхавіне, барабаніць зялёны дзяцел.

Цяжкавата ехаць натуралісту сярод незнаёмай прыроды, калі яму прыходзіцца сьпяшацца. Каб папасьці на ледавік, мы павінны сьпяшацца і ня можам рабіць перапынкаў, а між тым то адна, то другая акалічнасьць прымушаюць кожную хвіліну саскокваць з кульбака і хапацца то за рыдлёўку, то за стрэльбу, то за фото-апарат. Вось на шэрым ствале лісьцьвеніцы паказаўся нейкі зьвярок і адразу-ж схаваўся. Зьвярок незнаёмы, падобны да ваверкі. Пачынаюцца пошукі. „Вось ён!"—гаворыць таварыш, паказваючы на адну з ніжэйшых галінак, дзе сярод сьветла-зялёнай іглiцы цямнее нейкі пушысты камячок.

Глуха раскаціўся стрэл. Камячок упаў на траву. Цяпер мы ведаем, што гэта бурундук, што на сьпіне ў яго цёмныя паскі, і сёньня ўвечары пры сьвятле вогнішча мы здымем з яго скурку.

Мы прыехалі да бруднай, цьмянай рэчкі Акему і ўзьнімаемся ўверх па яе рэчышчы. Гэты шлях нам здаецца больш надзейным. Едзем павольна, бяз усякай дарогі, сярод маладога асіньніку, з труднасьцю прабіраемся праз густую траву. У некаторых мясцох трава моцна прымятая, нібы нехта, поўзаючы на жываце, зьбіраў ягады дзікай клубніцы, якая тут расьце ў вялікай колькасьці. Гэта зацікавіла нас. Здавалася-б, што няма тут каму хадзіць па ягады. Пачаліся ўсялякія прыпушчэньні. „Мабыць, пасьвіліся коні?"—парашыў нехта. Аднак адразу стала яснай нягрунтоўнасьць гэтай думкі. Калі коні, дык чаму няма памёту? Чаму не паедзена трава? Чаму так старанна абабраны сьпелыя ягады клубніцы? Урэшце, загадка была разгадана: мы знайшлі сьвежы мядзьведжы памёт.

На поўгадзіны мы забыліся пра коняй, забыліся аб тым, што нам трэба сьпяшацца ўзьнімацца ўверх па рацэ, і з заўзятасьцю ўзяліся за сьледапыцтва.

Праўду кажуць, што сьляды жывёлы — раскрытая кніга. Вось прымятая трава сьведчыць аб тым, што зьвер пайшоў да ракі, вось тут ён пералазіў праз калоду і садраў з яе кіпцямі мох, а вось, урэшце, ля самай вады, на гладкай паверхні глею, адбіткі вялікіх, крыху падобных на ступню чалавека, лап. Мы сфатаграфавалі сьлед і зрабілі некалькі вымярэньняў.


*На ствале лісьцьвеніцы паказаўся зьвярок.*

Чым далей прасоўваліся мы ўверх па рацэ, тым усё больш і больш крутым рабіўся схіл лагчыны і тым цяжэй было ісьці коням. Урэшце, схіл абарваўся, і мы апынуліся перад зусім адвесным абрывам. Становішча ня з бліскучых: наверх з коньмі не ўзьбярэшся, ісьці-ж па рэчцы немагчыма,—там кіпіць бурная вада і сьлізкія каменьні.

Мы папалі ў так званы „бом"—непраходную мясьціну, і павінны былі варочацца назад, страціўшы каля двух гадзін.

### Заблудзіліся

Калі нельга ўзьняцца па рацэ, паспрабуем узьняцца праз горы, і мы пачалі ўзьнімацца па лагчыньцы, якую нам паказаў алтаец. Праўда, асаблівай упэўненасьці, што гэта была менавіта тая лагчынка, у нас ня было.

Спачатку ўсё йшло, як ня трэба лепей. Усе мокрыя ад расы, мы вялі нашых коняй уверх па крутому схілу сярод лістовага лесу. Затым лісьцьвеніца кончылася і пачаўся таежны высакагорны лес з калматымі, аброслым барадатым лішаём, елкамі і густым мохавым дыванам. Штохвілінна прыходзілася прабірацца праз упаўшыя ствалы елак, сачыць за тым, каб галінкі не псавалі клунак. Чым далей, тым меней прахадзімым для коняй рабіўся лес. У процілегласьць лістоваму бору, тут, у тайзе, поўная цішыня. Калі-ні-калі пракрычыць кедраўка. Разы са два спалохалі глушакоў.

Мы ўжо даволі высока, але да верхавіны яшчэ далёка. Зьверху паказаліся скалы. Каб знайсьці сярод іх дарогу, хлопцы накіроўваюцца ў разьведку, а я застаюся пільнаваць коняй. Прахо-

дзіць поўгадзіны, хлопцы не варочаюца. Коні стаміліся, стаяць на нахіленай роўніцы, пераступаюць з нагі на нагу, дарэмна шукаюць корму сярод моху. У чаканьні таварышоў прыглядваюся да беднай расьліннасьці лесу. Тут, у высокагорнай тайзе, пасьля пышнай нязвычайнай алтайскай прыроды зьяўляюцца знаёмыя расьліны далёкіх паўночных лясоў—лінея, розныя віды грушанак...

Час праходзіць. Час-ад-часу крычу хлопцам—адказу няма. Я пачынаю непакоіцца. „Што-б гэта магло быць? Пэўна заблудзіліся". Бяру стрэльбу. Глуха раскаціліся два стрэлы.

Тайга маўчыць паранейшаму.

Сонца схіляецца да захаду.

Унізе ў даліне паўзуць. Што рабіць? Коні стаміліся і стаяць галодныя. Вырашаю спусьціцца ўніз, але як управіцца з трыма коньмі? Прыходзіцца спускацца спачатку з двума і потым, прывязаўшы іх унізе, вярнуцца за трэцім. На месцы прывалу на ўсякі выпадак пакідаю пісульку: „Я спусьціўся ўніз і буду чакаць ля ракі".

Аднак надзеі мала, што хлопцы знойдуць нашу стаянку і што гэтую пісульку хто-небудуь прачытае.

Амаль што ў змроках я дабраўся да ракі і расьсядлаў коняй. Расклаў вогнішча, пачаў варыць кашу і пачаў закладваць у прэс сабраныя за дзень расьліны. Настрой дрэнны.

Дзе хлопцы, што з імі?



*Я застаюся пільнаваць коняй.*

Раптам недзе далёка ў гарах раскаціўся стрэл, за ім другі. Я схапіў стрэльбу і радасна адкрыў страляніну ў паветра.

Праз гадзіну я пачуў знаёмыя галасы, а хутка пасьля гэтага мы ўсе ўтрох ляжалі на траве і са смакам елі кашу, якую мне ледзь не давялося есьці аднаму.

А. Кажэўнікаў.

## КАРЦЁЖНІКІ

„Дзеці м-ка Талочын купляюць спэцыяльныя калоды карт маленькага разьмеру. Гэта для таго, каб не заўважыў бацька і атрад.

*Палюбілі хлопцы карты:*
*Усё за іх аддаць-бы варта!*
*І пятак за пятачком*
*Сыплюць хлопцы на „ачко"...*



*Янка з бацкавай кішэні*
*(У страхоцьці й захапленьні)*
*Пятачок ці два украдзе.*
*Пойдзе к хлопцам дый засядзе...*
*А прайграў—агонь патух*
*У вачох, жывых дагэтуль.*
*Ня стрымаецца-ж на гэтым:*
*Зноў да хаты ён бяжыць,*
*Крадзе грошы і дрыжыць...*
*Пазавешваюць фіранкі*
*І гуляюць так да ранку.*
*Ну, а хатніх агітуюць,*
*Што урокі ўсё рыхтуюць.*




*15 сьнежня споўніцца 10 гадоў Комсамолу Беларусі. Гэткую гадавіну Усесаюзны Комсамол адсьвяткаваў у канцы кастрычніка м-ца. Піонэры павінны ведаць гісторыю Комсамолу.*

## Маленькія забастоўшчыкі

Яшчэ да рэволюцыі 1917 году рабочая моладзь прымала ўдзел у рэволюцыйным руху. Напрыклад, у Екацерынаславе з 64 арыштаваных кіраўнікоў стачкі было 28 чалавек, якім яшчэ ня споўнілася 20 гадоў. У адэскай турме ў 1903 годзе з 105 палітычных турэмнікаў 30 чалавек было, якім гэтак-жа сама ня споўнілася яшчэ 20 гадоў.

Моладзь ня мела тады сваёй асобнай організацыі, бо ўвесь рэволюцыйны рух быў у падпольлі. Організацыя і не магла абхапіць шырокіх колаў рабочай моладзі, дый немагчыма было і пры такім становішчы раздрабняць сілы моладзі і дарослых рабочых. Але затое ў організацыі дарослых моладзь прымала актыўны ўдзел і складала сабою досыць вялікую частку сярод членаў рабочых рэволюцыйных ячэек.

Моладзь з вялікай прагнасьцю рвалася да барацьбы. І зразумела чаму. У той час на фабрыках і заводах працавала шмат маладых рабочых. У сярэднім іх было амаль 1/4 усёй колькасьці рабочых; пры гэтым, на некаторых фабрыках, асабліва тэкстыльных, колькасьць моладзі дасягала 40—50 проц.

Моладзь пачынала працаваць з 10—12 гадоў, і адразу пападала ў жудасныя ўмовы. Працаваць прыходзілася ня менш 12—14 гадзін на суткі. Маладым рабочым прыходзілася працаваць пад наглядам майстраў, якія зусім не клапаціліся аб тым, каб вучань вучыўся працаваць. Яго ставілі да варштату на адну якуюнебудзь частку агульнай працы і прымушалі, каб ён вырабляў як мага больш. Абсталяваньне фабрык было ў вельмі дрэнным становішчы. Машыны, з пункту погляду аховы працы, былі вельмі небясьпечныя. Самы завод ці фабрыка былі брудныя, неахайныя, ад чаго хварэлі і дарослыя рабочыя, а асабліва падлеткі.

Вось прыклад—кіеўскія шкляныя гуты. Заўсёды адчыненая страха над печкай і двое зусім адчыненых варотаў утваралі бесьперарыўны падвей (скразьняк), які вельмі дрэнна адбіваўся на здароўі рабочых.

Для здароўя падлеткаў гэта было асабліва шкодна, бо яны працавалі ў зімовы час у дрэннай рванай вопратцы і босымі.

А вось яшчэ умовы працы на Хлудоўскай фабрыцы, дзе гаспадар атрымліваў 45 проц. чыстага прыбытку. Адна чацьвертая частка ўсіх рабочых складалася з падлеткаў да 14-ці гадоў, а другая чвэрць—з 14 да 18 гадоў. Там праца была вельмі цяжкая. Зморыныя рабочыя часта калечыліся; ніякай аховы працы ня было; пакалечаным рабочым у опэрацыі адмаўлялі.

Калі на гэтай фабрыцы здарыўся пажар, дык па загаду дырэктара ўсе дзьверы фабрыкі зачынілі, каб агонь не перайшоў на другія будынкі. А пасьля пажару з фабрыкі вывезьлі 7 вазоў абгарэлых трупаў.

(*Працяг гл. на стар. 14*).

# НАША ГАЗЭТА

№ 2 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 2

ТЭЛЕГРАМЫ

**Усім! Усім! Усім!**

**Культурны паход піонэрскай організацыі Беларусі працягнецца да 15 сьнежня г. г. Атрады, сьпяшайцеся выканаць свае пляны па культпаходу!**

## РАІМ ОРГАНІЗАВАЦЬ.

*Нашы вучні старэйшых клясаў вельмі зацікавіліся вывучэньнем пытаньня бягучай палітыкі па газэтах.*

*Дзеля гэтага мы організавалі гурток, які працуе адзін раз у тыдзень. Кіруе гуртком настаўнік, выкладчык грамадазнаўства. На занятках чытаюць „Чырвоную Зьмену“, „Пионерскую Правду“ і „Беларускі Піонэр“. Удзельнікі гуртка вельмі цікавяцца работай гэтага гуртка, бо ім вывучаецца сучаснае жыцьцё гораду і вёскі.*

*Раім усім школам організаваць такія гурткі.*

Сябры гуртка.

(Плешчынская 7-годка).

## Няма атраду.

Дзеці нашай вёскі, апроч лекцыяў, ня маюць чым заняцца, а хуліганяць. У некаторых далёкіх ад гораду вёсках і то што-небудзь зроблена для дзяцей, а ў нашай вёсцы хоць-бы хто аб гэтым на-сьмех падумаў. Ячэйка комсамолу сьпіць. А жадаючых паступіць у піонэратрад—хапае. „І хацелі-б быць піонэрамі, ды няма як!“—кажуць некаторыя дзеці.

А. Ґ.

(В. Малая Сьляпянка).

## Трэба выправіць.

На зборы атраду ставіліся інфармацыі аб насьцен. газэце, але яны нічога ня далі. Амаль кожны піонэр лічыць, што газэта—пустая справа. У атрадзе больш 60-ці чалавек, а ў насьцен. газэту піша толькі піонэраў 10. Газэта выходзіць зусім няцікавай.

Трэба, каб кожны піонэр пісаў у сваю насьцен. газэту, бо толькі тады яна будзе цікавай.

Вішнявер.

(М. Зембін, Барысаўшчына, 31-ы атрад).

## Конфэрэнцыя эспэрантыстых.

*27-га кастрычніка адбылася 2-ая канфэрэнцыя менскіх юных эспэрантыстых.*

*Некалькі таварышоў выступілі з прамовамі аб тым, якое значэньне мае для нас мова эспэранто. Для зносін паміж народамі розных старонак мова эспэранто зьяўляецца лепшым сродкам. Конфэрэнцыю наведаў корэец Фо. Ён—рэволюцыянэр, пролетары, 7 гадоў мучыўся ў турме за тое, што кінуў бомбу ў кітайскіх імпэрыялістых. Фо расказаў, як змагаецца корэйскі і кітайскі пролетарыят за сваю свабоду.*

*У канцы ён, па просьбе хлопцаў-эспэрантыстых, сьпяваў на кітайскай мове Інтэрнацыянал.*

*У клюбе была організавана выстаўка эспэрантыстых. Шмат корэспандэнцый паказалі, з якімі краінамі існуе сувязь менскіх экспэрантыстых. Тут-жа праводзіўся запіс у гурток эспэранто.*

Піонэр Яша Танэнбаум.

**Прывітаньне, напісанае корэйцам Фо—эспэрантыстым.**



**У час культурнага паходу абавязак піонэраў яшчэ больш паклапаціцца аб бяспрытульных—выцягнуць іх з нявичасьця, холаду, голаду і прывабіць у дзіцячыя дамы. На малюнку—бяспрытульныя дасталі „горкай“.**

## Мы ня гулялі.

*У часе летняга перапынку наш атрад пры Бялынавіцкай школе сялянскай моладзі (ШСМ) зрабіў шмат чаго карыснага сярод вясковых дзяцей, а таксама па сельскай гаспадарцы.*

*Зрабілі паказальныя градкі, на якіх вырасла вельмі добрая гароднiна.*

*Шмат якія піонэры ўцягнулі неорганізаваных дзяцей у шэрагі юных піонэраў. Дапамагло гэтаму і тое, што ячэйка вылучыла для працы ў атрадзе здольнага павадыра.*

*Цяпер у атрадзе налічваецца 60 піонэраў; сюды ўваходзяць і вучні і іншыя сялянскія дзеці.*

Сьлязьлівы Алесь.

## Гурток сьпіць.

Тры месяцы таму назад пры атрадзе імя Будзёнага і Адамовіча быў організаваны дзяткор. гурток. Замест старога бюро былі абраны калегіі, спадзяючыся, што гэта палепшыць працу нашага гуртка.

Быў выпрацаваны плян працы. Адзін раз склікалі сходку, і на гэтым усё спынілася. Насьцен. газэта ня выходзіць, бо няма матар'ялу. Калегіі заснулі. Бібліотэка, якая знаходзіцца пры гуртку, хутка пападзе ў лапы мышэй.

Нават не адчуваецца, што пры атрадзе ёсьць дзяткор. гурток.

Цырлін С.

(Капаткевічы, Мазыршчына).

## КУТОК ЖЫВОЙ ПРЫРОДЫ.

Ёсьць у нашай школе куток жывой прыроды. Ён мае некаторыя досыць цікавыя экспанаты.

Летась наш куток быў ня вельмі багаты: меў 4 морскіх сьвінкі, трытонаў, аксялётаў, белых мышак і некаторых птушак. Цяпер, дзякуючы актыўнасьці саміх вучняў, гэты куток значна пашырыўся.

Вельмі шчыры ўдзел прымаў у гэтай працы наш настаўнік па прыродазнаўству *Копцік*.

Цяпер мы маем тры акварыумы. У акварыуме жывуць пяць карасёў, тры акуні, некалькі плотак. Ёсьць уюны, трытоны і два сарты сьлімакоў. Ёсьць і драпежнік нашых рэк—шчупак. Кормім мы яго чарвямі і мясам. У вялікіх банках знаходзяцца аксялёты, жукі-плавунцы, пладышыкі, скарпіёны, п'яўкі і іншыя жыхары сажалкі.

З сухаземных жывёл мы маем дзьве чарапахі, вожыка, які цяпер заснуў на зіму, вавёрку, морскіх сьвінак, зайца і некаторых дробных птушак.

Апроч гэтага, мы маем цэлую колекцыю розных кукалак, якіх вывелі з вусеняў, напр., бялянкі, рэпніцы, бруквеніцы, начныя соўкі, баярышніцы і інш.

У гэтым годзе ў нашай школе організаваўся гурток натуралістых. Вучні парашылі трымаць цесную сувязь з Маскоўскім Бюро Юных Натуралістых. Паслалі да іх ліст з просьбай даць нам літаратуры на гэтую тэму. Чакаем адказу.

Андрэй Гайко.

(Практыкавальна-Паказальная Школа пры Мен. БПТ.).



Жылі падлеткі, як ўсе рабочыя, у казармах цесна, а бывала—бяднейшыя начавалі проста ў майстэрнях.

Вось што кажа падлетак на судзе:

„На фабрыцы прымушалі мяне цягаць воўну. За маленькую няспраўнасьць моцна білі. Ня было таго дню, каб нас не лупцавалі. Працавалі мы, дзеці, па зьменах—у дзень па 13 гадзін, а потым у начной зьмене з 8-мі да 4-х. Спалі ў воўне на скрынках. Тут нас часта білі. Мяне моцна зьбіў майстра Волкаў. Аднаго разу ў поўнач, пасьля чаю, я, зморany, заснуў. Хутка мяне разбудзіу зьменшчык. Спалохаўшыся яго, і, баючыся, каб зноў не пачалі лупцаваць, я спрасонку кінууся на машыну. Тут-жа мая правая рука папала ў адборную шчотку, якая зашчаміла руку вышэй далоні“.

Яшчэ больш прыходзілася цярпець моладзі на дробных фабрыках і ў саматужных майстэрнях. У параўнаньні з рабочымі, падлеткі зараблямі вельмі мала, хоць і выраблялі гэтулькі-ж сама, як і рабочыя. У сярэднім на фабрыцы зарплата для падлеткаў была ад 3-х да 10-ці руб. у месяц.

Пасьля цяжкога доўгага рабочага дню, зразумела, для вучобы не заставалася сілы. Маладыя рабочыя павінны былі заставацца няграматнымі (50 процантаў падлеткаў Масквы і Пецярбургу былі няграматнымі). Школ было мала, а тыя, што былі, больш вучылі пра багоў, пра цара, каб затлуміць галаву маладому рабочаму і зрабіць з яго паслухмянага слугу цара і капіталістых.

Але ўсё часьцей і часьцей сталі адбывацца здарэньні абурэньняў; моладзь пачала верыць у свае сілы, і разам з дарослымі рабочымі змагалася спачатку за паляпшэньне свайго становішча—зьмяншэньне рабочага дню, павялічэньне зарплаты, лепшых адносін з боку майстраў і гаспадароў, а потым і супроць цара, памешчыкаў і капіталістых.

## На шляху да аб'яднаньня

Вайна 1914 году ўцягнула яшчэ большую колькасьць моладзі ў вытворчасьць, узмацніла эксплёатацыю яе, але затое штурханула моладзь да самаарганізацы. Пачынаюць усюды організоўвацца гурткі-школы, дзе маладыя рабочыя працуюць над самаадукацыяй, знаёмяцца з становішчам рабочае клясы, з гісторыяй рабочага руху, з задачамі і работай партыі

Так, у Кіеве большая група рабочых з друкарні, ювэлірнай майстэрні, шавецкай майстэрні, пачаўшы займацца ў вячэрняй школе, організавалі гурток, цесна зьвязаны з партыяй бальшавікоў. Гэты гурток потым зьявіўся організатарам кіеўскага комсамолу.

У Пецярбурзе—цяперашнім Ленінградзе—гурток моладзі падпольна зьбіраецца, дзякуючы хітрасьці свайго старасты, маладога бальшавіка, потым сакратара ЦК КСМ, Пётры Смародзіна. Такія гурткі пачалі ўтварацца ў розных канцох краіны. Разам з забастоўкамі дарослых рабочых былі забастоўкі падлеткаў, якія мужна падымаліся на абарону сваіх правоў. Але над імі часта сьмяяліся і дарослыя рабочыя.



*Дырэктар выгнаў з хаты...*

У Пецярбурзе на заводзе „Стары Лесьнер“ рабочай моладзі далі ў тры разы меншую прыбаўку на дарагавізну, чым дарослым. Пачалася забастоўка.

У тым-жа годзе на ювэлірнай фабрыцы 1-ай кіеўскай арцелі пад кіраўніцтвам членаў таго гуртка, аб якім мы казалі вышэй, пачалася забастоўка па наступных прычынах.

На фабрыцы абгаварвалася становішча 60 падлеткаў. У першы год за 12—14 гадзін працы падлетку нічога не плацілі. У другі год плацілі 50 кап. у месяц... А дарагавізна павялічвалася. Месячнага заробку рабочага ледзь хапала на тыдзень на хлеб. 50 кап. хапала толькі на адзін дзень.

Зморанья голадам падлеткі, бачачы, што адміністрацыя і старэйшыя рабочыя не зварочваюць увагі на іх становішча, рашылі самі гаварыць з дырэктарам.

Дырэктар выгнаў з хаты, яшчэ і аблаяў „смаркачамі“ і загадаў прысланць да яго бацькоў. Тады парашылі баставаць.

## Першыя крокі

Лютаўская рэволюцыя адкрыла дарогу для масавай організацыі рабочай моладзі. Моладзь хутка ўцяміла сабе, што ад ураду капіталістых няма чаго чакаць паляпшэньня свайго жыцьця. Але затое моладзь шырока выкарыстала дадзеную Лютаўскай рэволюцыяй на першых пачатках палітычную волю. Моладзь з прагнасьцю цягнулася да організацыі. На фабрыках і заводах пачалі ўтварацца організацыі рабочай моладзі. Організатарамі ў большай частцы зьяўляліся члены падпольных гурткоў 1915—16 гадоў.

Гэтыя організацыі хутка наладжвалі сувязь паміж сабой. Там, дзе колектывы моладзі організоўваліся раней, дэлегацыі маладых рабочых абходзілі прадпрыемствы, склікалі сходы моладзі і дапамагалі ім організоўвацца ў колектывы.

1-га мая ў Ленінградзе ўся рабочая моладзь вышла асобнымі колёнамі і прымала ўдзел у дэманстрацыі. У сваіх плякатах моладзь патрабавала 6-цігадзіннага рабочага дню, усеагульнага дармовага навучаньня і г. д.

Амаль усе організацыі да кастрычніка 1917 году былі настроены па-бальшавіцку. Яскрава выявіўся настрой маладых рабочых пры правядзеньні дэманстрацыі 15-га кастрычніка.

„Далоў вайну!“ „Уся ўлада саветам!“ Дэманстрацыяй была прынята рэзолюцыя, якая патрабавала ад усерасійскіх зьездаў, сацыял-рэволюцыянэраў, сацыял-дэмократаў неадкладна ўзяць уладу ў свае рукі і заключыць мір.

Моладзь ня была ў апошніх радох у часы кастрычнікавых боек. Вось малюнак з успамінаў комсамольца Кісялёва:

„Іду ў пакой, дзе, налёгшы на стол, стаялі ў чарзе рабочыя, салдаты і моладзь.

Гэта—запіс у чырвоную гвардыю. Лепш, не запіс, а рэгістрацыя, таму што яшчэ задоўга да кастрычніка ўсе, хто цяпер стаяў у чарзе, лічылі сябе чырвонагвардзейцамі.

Нецярплівай гарачай моладзі ўсё здаецца павольным.

— Ці хутка там? Чаго там капаешся?..

— Пасьпееце, пачакайце.

Але ці будзе моладзь чакаць. Недзе дасталі паперу і аловак. Моладзь утварыла сваю чаргу.

А ў чарзе гутаркі:

— Да што вы мяне запісваеце ў санітары. Не хачу я ў санітары, я хачу ў свой атрад..

— А аружжа калі дадуць,—зараз-жа? Моладзь узбройвалася чым папала.

У першы дзень паўстаньня зброі амаль што ўжо ня было ў райкоме. Былі толькі дзьве бярданкі і ў некаторых рэвальвэры. Але на другі дзень, узброіўшыся бярданкамі і рэвальвэрамі, мы групамі па пяць чалавек рассыпаліся па Прэсьне, Кудрынскай, Садовай, Грузінскай і пачалі здабываць зброю ў студэнтаў, афіцэраў, якія праходзілі па завулках. Камандавалі: „Рукі ўверх!“ і шукалі за папружкамі і ў кішэнях; акрамя таго, бегалі па дамох і адбіралі ў дамкомах. Увогуле на другі дзень здабыча была добрая. Так мы ўзбройваліся першыя дні“.

Многа комсамольцаў загінула ў Кастрычнікавыя дні на вуліцах Масквы. Адважнасьць іх была нязвычайная. Ранейшая недаверлівасьць дарослых рабочых да „малакасосаў“, „хвосьцікаў“ перайшла ў зьдзіўленьне перад іх адданасьцю, адвагаю, і якое-б даручэньне не давалася—перадаць важнае паведамленьне, затрымаць наступленьне, абараніць барыкаду,—яно выконвалася.

Вось што піша Артамонаў, адзін з вучняў маскоўскага паўстаньня.

„Нам, найбольш маладым з саюзу моладзі, у першыя часы ніяк не давалі вінтовак. „Яшчэ перастраляецеся“. На нашу долю выпадала капаць акопы, будаваць барыкады, рабіць разьведку і выконваць асобныя даручэньні: расклейваць плякаты і інш.

Але праз дзень:

— З упартасьцю прасоўваемся наперад. Засада. З нашага боку няспрытна ляціць ручная бомба. Звон разьбітага шкла і выбух. Пасьля гэтага ўрываемся ў дом, а потым такая-ж асада наступнага. Амаль кожны тут дом, як крэпасьць, прыходзіцца браць праз бойку.

Частку з нас накіроўваюць к „Мэтрапольлю“, каб з яе страхі абстрэльваць стрэхі дамоў на Нікольскай вуліцы і Тэатральным пляцы“.

## Моладзь у рэвалюцыйных баёх

Скончыліся кастрычнікавыя дні, і моладзь бярэцца зноў за будаўніцтва сваіх мясцовых арганізацый. Пачынае выходзіць орган саюзу, склікаецца шэраг конфэрэнцый, утвараюцца гурткі, клюбы. Вядзецца падрыхтоўчая работа па скліканьню 1-га Ўсерасійскага зьезду, які і адчыняецца 1 кастрычніка 1918 г.

Вось важнейшыя пастановы зьезду.

„1. Саюз солідарны з РКП. Ставіць сабе мэтаю пашыраць ідэі комунізму і ўцягваць рабочую і сялянскую моладзь у актыўнае будаўніцтва Савецкай Расіі.

2. Саюз зьяўляецца незалежнай арганізацыяй. Саюз называецца „Расійскі Комуністычны Саюз Моладзі“.

Пытаньне аб тым, як назваць саюз, выклікала вялікія рознагалосьсі. Частка таварышоў казала, што слова „комуністычны“ будзе пужаць сялянскую моладзь, і яна ня пойдзе ў саюз, але такіх таварышоў было менш, і будучае даказала іх памылку.

Пасьля зьезду комсамолу не ўдалося распачаць мірную работу. Пачынаецца грамадзянская вайна, і ўсе сілы партыі і комсамолу кідаюцца на фронт.

## 1918—20 гады

З першых-жа крокаў сваёй работы Комуністычны Саюз Моладзі даказаў, што ён зьяўляецца дастойным сынам бальшавіцкай партыі і Ільліча. 1918, 19, 20 г. г. былі цяжкімі гадамі іспыту для маладой Савецкай Рэспублікі. Імпэрыялістычная вайна закончылася, але ня так лёгка было залячыць яе раны. Ня было хлеба, бо ў час вайны ня было каму яго сеяць і зьбіраць; людзі, коні—усё было кінута на фронт. З-за недахвату вугалю, жалеза спыняліся фабрыкі і заводы; чыгункі былі амаль разбураны. Рабочая моладзь пасьля Кастрычніка з вялікай энэргіяй кінулася на будаўніцтва рэспублікі, але галоўныя бойкі былі яшчэ наперадзе. Ня так лёгка было памешчыкам, купцом і фабрыкантам расстацца з сваімі маёнткамі, фабрыкамі і заводамі, адмовіцца ад эксплёатацыі рабочых і сялян. На дапамогу ім прыходзяць замежныя капіталістыя, якія дапамагаюць грашыма і зброяй.



*Трэба было расклейваць плякаты.*

Наступленьне ідзе з некалькіх бакоў. Саветы—у „агнявым кальцы“. Трэба было абараняцца.

Комсамол ня толькі не адставаў ад дарослых, але часта быў першым на самых цяжкіх вучастках баявога фронту. У красавіку 1919 году абвяшчаецца 1-ая мобілізацыя комсамолу на калчакоўскі фронт. Вырашана пасла́ць толькі 20% комсамольскай організацыі, але моладзь сама рвецца на фронт. Дабравольцаў многа больш, чым трэба.

2-гі комсамольскі зьезд, які адбываўся ў самы разгар боек (кастрычнік 1919 г.), абвясьціў другую мобілізацыю комса-

молу (30%). Комсамольскія організацыі, якія знаходзіліся ў раёне боек, мобілізуюць усіх пагалоўна, пачынаючы з 16-ці гадоў, хлопцаў і дзяўчат.

Комсамол аднадушна адгукнуўся на гэты кліч.

Харкаўская організацыя шле бронецягнік, Адэская організацыя, не пасьпеўшы аслабаніцца ад белагвардзейшчыны, шле 300 таварышоў на фронт. Барацьба ідзе ня толькі з белагвардзейшчынай, але і з бандытызмам. Так, Кіеўскі саюз усёю канфэрэнцыяй даў згоду накіравацца на фронт, і там гіне. Вось што піша аб ім тав. Сьляпкоў:

„Як і шмат тагачасных атрадаў, быў хутка сабраны атрад, у якім недахват вайсковай організаванасьці, зброі павінны былі замяніцца комуністычнай дысцыплінай і адданасьцю справе. І гэты атрад заняў Трыпольле, якое было вызвалена ад бандытаў. Ім здавалася, што Трыпольскае насельніцтва добра да іх адносіцца. Але гэта былі кулакі, якія захоўвалі сваю злосьць. Гэта былі бандыты, якія засталіся для шпіёнажу. Нявопытны начальнік атраду кепска расставіў каравул і дазволіў членам атраду рассыпацца на начлег па хатах.

А ў цемры ночы здраднікі падвезьлі да мястэчка зброі. І раптам з усіх канцоў мястэчка пачалося зьверскае збойства захопленых зьнячэўку няўзброеных членаў комуністычнага атраду. Супраціўляцца было немагчыма. Асобнымі адзінкамі і кучкамі доўга яшчэ, да ранку, адбіваліся комуністыя і комсамольцы, але да мястэчка падыходзілі ўсё новыя і новыя сотні бандытаў. Аставаўся адзін шлях адступленьня—да Дняпра. На беразе Дняпра разыгралася апошняя сцэна трыпольскай трагедыі.

Групы моладзі спіхаліся штыкамі бандытаў у раку. Кулі даганялі тых, якія хацелі выратаваць сваё жыцьцё, параплываючы на другі бок. Над тымі, якія папаліся ў палон, учынілі зьверскую, сярэднявяковую кару: жывымі закопвалі ў зямлю адных, наносілі дзесяткі ран другім. Нямногія засталіся жывымі“.

Абурэньне ахапіла ўсіх кіеўскіх рабочых. Усе організацыі рваліся ў бой, каб адпомсьціць за загінуўшых.

Пасьля баёў пад Трыпольлем банды былі разьбіты.

Але ня трэба думаць, што тая частка моладзі, якая ня была на фронце, нічога не рабіла. Вельмі важная была работа ў тылу, і там яна была не лягчэйшаю, чым на фронце. Там, дзе раёны знаходзіліся пад уладаю белых (Украіна, Каўказ, Беларусь), комсамольскія організацыі ідуць у падпольле, але ня спыняюць сваёй дзейнасьці. Расклейка лістовак, зьбіраньне зброі, распаўсюджваньне рэволюцыйнай літаратуры сярод акупацыйных войск, псаваньне правадоў, узрыў мастоў, удавалася нават склікаць конфэрэнцыі моладзі, весьці сярод членаў саюзу палітасьветную работу.

Бязумоўна, усё гэта не праходзіла дарма. Вельмі небясьпечнымі былі комсамольцы для белых генэралаў. Таму вялося дакладнае наглядaньне і высьледжваньне. Жорсткая, кароткая была расправа з злоўленымі таварышамі. Напр., у Крыме злоўленых контр-разьведкай „мучылі 3 тydні для таго, каб вырваць у іх назвы і адрасы партыйных і саюзных работнікаў, якія засталіся на волі“. Але ім гэтага не ўдалося. Комсамольцы засталіся вернымі рэволюцыі.

*(Канец будзе).*







# ЯК ЯНЫ ЗЛУЮЦЬ



*Пэрсыдзкі рысь (каракал)—злосна кідаецца на ўсіх, хто падыходзіць да клеткі.*

Аднойчы мне прышлося бачыць, як выгружалі на прыстанак з ост-індзкага параходу клеткі з драпежнымі зьвярамі і як перасаджвалі іх у асобныя памяшканьні.

Шчыльна прыцісьнуўшыся ілбамі да жалезных кратаў, тыгры сядзелі ў сваіх скрынках, моцна зьвязаных вяроўкамі. Потым старэйшы наглядчык узьлез на скрынку, перарэзаў вяроўкі і адчыніў дзьверцы. Моцнае шыпеньне, дзікі лямант, тупат, і быццам полымя ўварвалася ў клетку з цёмнае скрынкі—гэта перабег тыгра нумар першы.



*Раззлаваная птушка-сэкратар.*

Пасьля некалькіх гадзін работы ўсе зьвяры былі перасаджаны. 2 месяцы таму назад яны вольна сабе гулялі і разбойнічалі ў джунглях (амэрыканскія стэпы) і ня думалі, што ёсьць на сьвеце зьвераловы.

Больш усяго непакоіліся два падлеткі-тыгры. Яны ляжалі скруціўшыся, як зьмеі, у самым далёкім кутку клеткі, прыцісьнуўшы галаву да зямлі, і глядзелі на нас лютымі вачыма. На іх скурах ня было ніводнай белай лапінкі, чорныя з жоўтымі колцамі хвасты білі зямлю, а з расчыненых ляпаў вырывалася злос-



*Усурыйскі тыгра ў Дрэзьдзенскім зоопарку*

нае шыпеньне, падобнае на зьмяінае, але яшчэ страшнейшае, бо іх белыя вусы зьвінелі цяпер, як шкляныя. Тыгры ляжалі зусім нярухома. Усё іх жыцьцё і ўся іх лютасьць сьвяцілася ў іх зроку.

Поруч у скрынцы сядзеў леопард. Калі толькі падыходзілі да яго клеткі, ён падскакваў неяк, то ўверх, то ўбок, б'ючыся аб жалезныя краты, як быццам хацеў іх вырваць сілаю.

Птушку-сэкратара перасаджвалі разам з іншымі драпежнымі птушкамі.



*Павіан. Гнеў яго і лютасьць уяўляюцца зусім слабымі.*

На сваёй афрыканскай бацькаўшчыне птушка-сэкратар корміцца галоўным чынам зьмеямі. Яна накідваецца на іх з лютасьцю, пер'і яе ўзьнімаюцца на дыбкі, моцныя пазуры з налёту хапаюць ахвяру, а дзюба... усякі, хто паглядзіць на гэту дзюбу, зразумее, што гэта птушка расправуляецца з ахвярай з найвялікшай хуткасьцю.

Брэм (вучоны) кажа аб стэпавай рысі, што гэта самая драпежная жывёла з усяго кашачага роду. Варта толькі паdыйсьці да клеткі, дзе яна ляжыць зусім спакойна, каб узьняць цэлую буру.



*Шатляндзкая дзікая кошка.*

Драпежныя кошкі нават змалку зьяўляюцца лютымі—у гэтым мяне пераканаў маленькі леў з заолёгічнага саду ў Гальле. Аднойчы мы вынялі маленькага коціка-льва з клеткі, каб сфатаграфаваць яго. Коцік спакойна сядзеў на руках у вартаўніка, фатограф стаяў зблізку, а я махнуў рукой ля носу ільва, каб разбудзіць яго ад санлівасьці. І якое-ж мора гневу і лютасьці засьвяцілася зараз-жа ў яго вачох!

Але самы першабытны выгляд лютасьці я наглядаў у павіана. Нехта кінуў у клетку малпаў кавалак цукру; малады павіан падбег да яго, але чалавек зараз-жа прасунуў у клетку палку, прабуючы выняць цукар. У наступны-ж момант перад намі адбылася бурная сцэна. Пярэднімі рукамі павіан адбарабаніў нейкі дзікі танец, расьсердаваны бацька яго скокнуў зьверху і наваліўся ўсім целам на краты клеткі. З яго горла вырваўся дзікі лямант, і ён так заляскаў зубамі, што чалавек з палкай міжвольна адскочыў ад клеткі, увесь зьбялеўшы.



*Васьмімесячны леў з заолёгічнага саду ў Гальле.*

# Сенька-бяспрытульнік

*(Нарыс).*



*Сенька-бяспрытульнік.*

Бацькі свайго ён ня помніць. Пра матку ўспамінае, як праз сон. „Польскі улан ударам прыклада вінтоўкі прыбіў яе, хворую, да сьмерці“—апавядае бялявы, худы хлапец, калоцячы то адну, то другую сваю нагу ад нэрвовасьці.

З таго часу і пачаліся яго вандраваньні па сьвеце.

З дзесяці гадоў ён пападае ў Менск. У гэтым горадзе ён сабе знаходзіць сяброў і з імі разам начуе на рынку пад стрэхамі. Кормяцца яны ўсім, што ёсьць у гандляроў. У іх лёзунг: „Хто не працуе, той і ня есьць“.

Усе стараюцца перагнаць адзін другога, пабіць рэкорд па здабычы булак, ігруш і нават гарбузаў з кошыкаў гандлярак.

Суровая зіма знаходзіць іх на станцыі. Тут, хаваючыся ад дзяжурных станцыі, начуюць яны.—„Зімой я не баяўся хадзіць босым, мне было цёпла“,—з гордасьцю апавядае Сенька.

Сеньку не сядзіцца ў Менску. Ці-ж да твару гэта бяспрытульніку сядзець на адным месцы? „Трэба даць ходу“,—вырашае Сенька, і, сабраўшыся з сябрамі пад паравозамі, дзе цячэ мазь (тут не заўважаць!), яны борзда коцяць на поўдзень.

Сенька пападае ў Адэсу.

Адэса—вялікі партовы горад. На прыстанку шмат людзей. На параходах ідзе сьпешна пагрузка. На акраінах гораду часта робяць напады бандыты. Іх шмат наўколы Адэсы.

Сенька — сярод бандытаў: носіць ім есьці, робіць разьведкі, сам удзельнічае ў грабествах...

Потым адэская турма...

Сябры яго сумуюць па Сеньку. Яны складаюць пра яго песьню, дзе усхваляюць яго як гэроя.

То ня дом і не бальніца,
А сапраўдная турма.
Ў тэй турме сядзеў хлапчына—
Гадоў дванаццаці дзіця.
Ты скажы, скажы, хлапчына,
Колькі душ ты загубіў?..

І ў такім-жа тоне і далей...

З Адэсы Сенька едзе ў Маскву. Там ён бачыць ангельскіх піонэраў... Ён чуе гарачую прамову піонэра з маўзалею. У ім загараецца жаданьне стаць піонэрам, але сябры яго ня пускаюць.

У начлежках на іх міліцыянэры робяць частыя аблавы—робяць замах на іх „вольнае жыцьцё“.

Ен уцякае ў Бабруйск. Тут зноў у гурце таварышоў, тыя-ж рэкорды на булкі і папяросы.

Але Сеньку ішоў трынаццаты год. І задумаўся Сенька, што досыць, надаела чатыры гады вандраваць і жыць у

гурце бяспрытульнікаў, абрыдзела лазіць па трубам стрэх і стаяць ля сталовай ЦРК, прасіць, каб кінулі хоць крышку недаедкаў.

Сенька ідзе ў дзіцячы дом і праз месяц пападае ў лягеры. У лягеры Сенька ажыў. Ён пачаў перадаваць свае штукарства: костачкі, грабенчык, выконваў „кірпічыкі“, і ўсё гэта стала цікавым для ваколічных дзяцей.

У лесе ціха. Каля ўчарашняга вогнішча сядзяць піонэры. Павадыр расказвае аб цяжкім жыцьці дзяцей ў Кітаі. Піонэры ў думках пераносяцца ў Кітай. Кожны піонэр душою перажывае нечалавечныя зьдзекі над рэволюцыянэрамі. Навокол нямая ціш. Піонэры ўважліва слухаюць далей.

Раптам, глыбока усхваляваны, устае Сенька:

— А я заўтра паеду ў Кітай!

Піонэры не сьмяюцца. Яны добра ведаюць, што Сенька не жартуе.

І назаўтра, і кожны дзень пасьля гутаркі, цягнік, які імчаўся блізка каля лягеру, вабіць Сеньку. Яго цягне на мяжу. Кожны раз пасьля праходу цягніка ён нэрвуе і задумліваецца. Ня йдзе ўжо йграць на костачках, адпіхае піонэраў і часта плача, сам ня ведаючы чаму.

Адзін раз вечарам, калі піонэры пайшлі на гульні, Сенька апранае пальто і йдзе да цягніка. Я яго знаходжу каля цягніка, ён павінен абавязкова ехаць на мяжу. Без яго цягнікісьці не павінен! Ён плача, ён праводзіць цягнік у нязвычайным хваляваньні, і калі цягнік зусім зьнікае ў цемры, ён засмучона йдзе ў лягер. Сенька астаецца.

Кожны раз цягнік прыпамінае Сеньку мінулае. Перад ім устае Менск, перад ім пралятае Адэса з сябрамі, і тады ён пяе:

Ня плач мама,
Ня плач тата,
Ня плач родная сястра—
Заўтра рана—
На сьвітаньні
Вольным птахам стану я!

* * *

Сягоньня апошні вечар лягеру. Вясёлы Сенька — сягоньня яго юбілей. Заля просіць толькі Сеньку. Быўшы бяспрытульны, а сёньня з гальштукам, стараецца як мага лепш паказаць свае штукарства, пакінуць добрую памяць аб сабе сваім таварышом неорганізаваным, якія папрыходзілі сюды з вёсак і хутароў. І яму задаволіць таварышоў удаецца. Ён падцее, задыхаецца ад сьпеваў, але не адчувае зморанасьці—ён бяз меры зацікаўлены сваімі костачкамі...

Цягнік імчыцца з нябывалай хуткасьцю, быццам стараецца чым хутчэй давезьці нас да Бабруйску. Сенька стаіць ля вакна задуменны і ўглядаецца ў прастор лугоў, углядаецца ў лес, які часта пападаецца на нашым шляху.

Раптам твар Сенькі скрывіўся. Ён клiча мяне: „Ты бачыш—яна забаўляе хлопчыка!“ Збоку дарогі стаяла жанчына і, папраўляючы кашулю свайму сынку, пацалавала яго ў лоб.

Сенька ніколі не адчуваў матчыных пяшчот ласкі. **М. Гельфорс.**



*Сенька-піонэр.*

# Вожык



## ВАЕНІЗАЦЫЯ

*(Да ўвагі інтарнатаў)*

На лекцыі настаўнік Пузыроў,
Нібы вар'ят, задорна раскрычаўся:
— Буржуазея ласая на кроў!
Зноў бурны лёрдаўскі паход пачаўся.
Там танкі!
Куляметы!
І —
гарматы!
Балёны газаў з хлёрам няпрывабным.
Каб бараніць краіны нашай хаты—
Нам трэба быць заўжды—
П-а-д-р-ы-х-т-а-в-а-н-ы-м-і!
Страляць у цэль
Павінны добра ўмець мы,
Процівагазам добра уладаць...
Тады паноў
Мы замяцём на сьметнік,
Па карку Мусоліні зможам даць!



* *
*

Вучні на вус наматалі
Бурныя, гучныя словы.
Словы грунтоўна запалі
У поўныя думак галовы.
Рукі сьвярбяць, бы ў каросьце,
Хочуць паціснуць курок.
Мускулы практыкі просяць,
Ах, каб скарэй той званок!..

* *
*

Званок!
Бягуць у інтарнат,
А там даўно абед гатовы.
У галаве імкненьняў шмат—
Каб апісаў, дык вышлі-б томы.
Стралкамі хочуць
Хлопцы стаць...
Сымон прыцэліўся ў Марку,
Бы ў мішэнь,
З размаху—бац!
Скарынкай хлебнаю па карку.
А той яму!
І так далей...
То там, то сям і „мат" загнулі.
Далей і больш,
Далей і лепш,
Скарынкі сьвішчуць, быццам кулі.
І так на практыцы вайна;
Зрабіўся кожны з іх паганым.
— Ты хлебам мне!!
Раз так, дык—на!
І бух баршчу на лоб Івану.
Не папусьціўся ў крыўду аніякі.
Галоднымі-ж пайшлі, нібы сабакі.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

## ЛІСТЫ-ПЯКУЧКІ ВОЖЫКА-КАЛЮЧКІ

**„Добры дзень, піонэры, Пятрусі, Веры, акцябраты, школьнікі, нядбайнікі, свавольнікі! Калі вы часопісь чытаеце, то мяне, напэўна, знаеце...**

**Я зноў праверыў піонэрскія „дзялішкі", і покі запісаў, дык паперы скрэмзаў 3 аркушы з лішкам. Калі-ж у запіскі глянуць, дык ажно вушы вянуць.**

**Хай-жа мая калючка іх прапора, каб прад усімі ім было сорам.**

### 1. У Барысаве

Два тыдні назад хадзіў я ў першы Барысаўскі атрад, і там заўважыў шмат спраў няважных. Там адна бяда: піонэр-комсамольцы брыда. Ня ходзяць на атрадныя зборы: то няма часу, то хворы. Прычын шмат занадта. У школу ня ходзяць на заняткі і смокчуць цыгаркі.

Я ад злосьці харкнуў, дык нарабіў бруду ня мала, бо ў клюбе ня было плявалак. Раззлаваўся я занадта, насьпех сабраў манаткі. Даць-бы ім за такую работу (зразумела, не халявай ад старога бота, а я-б даў параду, каб выключылі з ячэйкі і піонэр-атраду).

**2. Гандлююць павадырамі**

А вось мне дзяткор Баўдзей, што вучыцца ў Пясоцкай школе дзесь, Капыльскага раёну—звоніць па тэлефону.

— „Ратуй, браце Вожык, жыць далей ня можам, пагроза зьвісла над намі: ячэйка гандлюе павадырамі. Дрэнь справа з імі, ажно 20 чалавек зьмянілася за зіму. Таму і праца кульгае, расьцьвітаць ані нельга ёй“.

Рацэпт я дастаў ім: у школе маецца настаўнік-комсамолец, ня мае грамадзкай працы, вось дзе будзе павадыр хвацкі! І ня трэба будзе павадыроў мяняць, і як Заблоцкі на мыле гандляваць.

**А яны асірацелі...**

Я тут скок! у вёску Высокі-Гарок, Магілеўскае акругі. І тут настроі чорным кругам у думках праляцелі... Піонэры, бачыце, асірацелі. Іх павадыр Палетаяў Захар—не павадыр, а чыпуха-а... у атрад ня ходзіць ніколі, і нібы ад болю скогліць, каб за яго працу давалі грошы. (Вось дык харошы!). У яго на ўме рублі, капейкі, — гэта бачыць і комсамольская ячэйка ды нічога ня робіць, а ад Захаравай работы піонэры асталіся, як сіроты.

* * *

**А цяпер зварочваюся да дзяткораў: дружна, заўзята, скора ў часопісь заметкі шлеце альбо па тэлефону мне званеце. Бо ўсюды абходзіць—гразкая дарога,—а хады многа.**

**Я рад, што зіма ўсё бліжай і бліжай, тады надзену лыжы і сам пабываю ў кожным атрадзе і школе. Але й цяпер даволі я падгледзеў хібаў, ну дык ў другі раз хіба прышлю заметак яшчэ вам, а пакуль да пабачэньня!**

**Ваш Вожык.**

# Гэроічная схватка

*Гэта схватка сапраўды была гэроічнай. І ў ролі гэрояў—піонэры Лістападаўскага атраду (Старадарокскі раён).*

*Справа ў тым, што піонэры-лістападаўцы набылі вышэйшую кваліфікацыю ў бойках. Ніякіх курсаў па гэтай справе яны не праходзілі. Пасучы коні, самі сабою навучыліся.*

*Так і цяпер.*

*Нейкі распусьнік-піонэр (сорамна абзываць піонэра распусьнікам, але няхай саромецца Лістападаўскі атрад) закінуў некуды Алесеву аброць. Схавалі... дый добра-ж схавалі. Той шукаў, шукаў—галаву скруціў.*

*Дзе аброць — ведаў толькі Мішка. (Да рэчы, разам з Мішкам быў яго брат Лявон, таксама адыгрывае ў гэтай справе не малую ролю).*

*Алесь, даведаўшыся, што пра аброць ведае Міша, к яму:*

*— Кажы!*

*— Не скажу!*

*У Алеся твар пачырванеў. Ён зірнуў на свой гальштук. Зьняў і ў кішэню. Цяпер ён ані-ні не падобны да піонэра, хоць на яго і дагэтуль мала змахваў.*

*— Ф-ю-й!—сьвіснуў дубец у паветры.*

*На твары Мішы выдрукаваўся шнурок чырвонага колеру.*

*Лявон (бачыце, і Лявон спатрэбіўся) дрыжыць. Хочацца памагчы брату. Але па сваёй сіле ён прад Алесем, як кацянё сьляпое прад ганчаком-сабакам.*

*Алесь з усяе сілы як стукне Лявону ў карак, у таго ажно ногі фыркнулі ў паветры.*

*Убачыўшы гэтакую гісторыю, Міхась пабег, узяў Алесеву аброць, і—проста цуглямі паміж плеч Алесю...*

*На кожны новы ўдар сябры адгукаюцца сьмехам (ім надта сьмешна!).*

*Вось і факт: разьбітыя насы Лістападаўскіх піонэраў і ліхтары пад вачыма.*



# ВЯЛІКІ ПАХОД

*(Канец)*

Доктар пастрашыў бацьку, што для яго здароўя піць гарэлкі ніяк ня можна. І гэта як рукой зьняло...

Камароўскія піонэры ставяць пытаньне перад рабочымі „Дрэваапрацовачнага“ заводу, каб зачыніць піўную, што шырока расьселася тут-жа поруч з заводам.

Рабочыя, зразумела, падтрымалі піонэраў. Гэта вельмі важна: рабочыя прыслухоўваюцца да разумных прапаноў сваіх дзяцей-піонэраў.

Альбо хіба-ж гэта ня дзіўна: *піонэры Палітэхнікуму вучаць студэнтаў*, што курэньне—гэта атрута, і кожны сьвядомы чалавек можа лёгка перамагчы благое жаданьне курыць.

Культурны паход шырока захапіў і школьнае жыцьцё. Уважліва пачалі сачыць вучні і піонэры за чыстатой у школах, за паляпшэньнем дабрабыту саміх-жа вучняў.

Вось характэрныя прыклады з Мазыршчыны.

„*1-ая школа імя Някрасава дабілася праз школьную раду, каб у школе паставілі ўмывальнік, плявальніцы, далі асобны пакой для разьдзяваньня*“.

„*У гэтай-жа школе організавалі пераплётны гурток*“...

„*2-ая школа сабрала для падшэфнай вёскі бібліятэчку і зрабіла выхад у гэту вёску, каб правесьці і там культ. паход*“...

„*3-ая школа організавала два гурткі: радыё-гурток і гурток бягучай палітыкі. У школе зрабілі ўмывальнік. Правялі санітарны агляд вучняў і г. д.*“.

Гэтак-жа і менскія піонэры і школьнікі шмат чаго робяць карыснага для сваіх школ.

Да прыкладу ўспамянуць хоць-бы пра такія факты.

„*У 9-ай школе дабіліся таго, каб самай малодшай групе вучняў выдавалі гарачае малако ў час сьнеданьня*“.

„*У 5-й школе вучням ня было дзе дагэтуль пачытаць газэты. Цяпер агульнымі сіламі пры дапамозе фарпосту ўдалося наладзіць школьную чытальню*“...

„*У 12-ай школе увялі гарачае сьнеданьне*“...

Шмат якія школы стараюцца дапамагчы матар'яльна бяднейшым вучням. Бо калі не дапамагчы самым бедным вучням, яны ня здолеюць так вучыцца, пасьпяваць, як усе.

І вось жывыя факты:

„*15-ая школа (Менск) правяла платны вечар на карысьць бяднейшых вучняў. Вечар даў 20 руб. прыбытку. Гэтыя грошы пойдуць на закупку пісьмовых прылад і абутку зусім бедным вучням. У школе організуюцца групы колектыўнай вучобы*“...

У атрадах і школах шырока праводзіцца кампанія за выпіску піонэрскіх газэт і часопісяй. Трэба, каб кожны атрад паклапаціўся аб гэтай вялікай патрэбнай справе. У нас ёсьць многа атрадаў і школ, якія зусім, па сваёй нядбайнасьці, ня выпісваюць свае часопісі „Беларускі Піонэр“. А хіба гэта можна пагадзіцца з гэтым? Хіба часопісь не зьяўляецца карыснай і цікавай для дзяцей? Зусім не. Справа тут аказваецца *ў нядбайнасьці*, у санлівасьці *нашых школ* і атрадаў. Нельга-ж, дапраўды, адмаўляцца, як гэта некаторыя прабуюць рабіць, тым, што сродкаў няма. Па грошу з вучня і піонэра, і вось вам часопісь.

Культурны паход павінен захапіць сабою такую важную працу, як пашырэньне часопісі „Беларускі Піонэр“.

Ёсьць, аднак, яшчэ і такія глухія месцы ў Менску і Мазыры, дзе атрады яшчэ як сьлед не ўзварухнуліся. Але гэткіх, паводле вестак сьвязістых, вельмі мала.

Культурны паход стаў справай масавай, колектыўнай.

# Аб усім патроху.




## Апарат для дыханьня плаўцоў.

*У Францыі ў спартсмэнаў-плаўцоў карыстаецца вялікім посьпехам зробленая з лёгкага мэталю прылада, якая дае магчымасьць плаўцу плысьці ў моры ў вялікую буру і не захліпнуцца вадой.*

*Як відаць з малюнку, унутры гэтай прылады, якая мае форму качкі, ёсьць трубка O, унізе якой прымацаваны гібкі гумавы шланг T, канец якога плавец бярэ ў рот. У галаве качкі ёсьць некалькі дзірак, праз якія паветра ўваходзіць у сярэдзіну; вада, што пападае ў сярэдзіну прылады, выліваецца праз дзірку З, якая шчыльна зачыняецца і не прапускае знадворнай вады.*

## Вандроўная гара.

*Гара Арбіно, якая знаходзіцца ў паўднёвай Швайцарыі, вышынёй у 1694 м. мае ўласьцівасьць перасоўвацца сама па сабе. За час з 1888 г. да 1905 г. верхавіна гары перасунулася на ўсход на 1,8 м.*

*Па думцы швайцарскіх вучоных, гэта гара ў недалёкай будучыне скінецца ў даліну Арбеда, пры гэтым загіне некалькі вёсак, якія знаходзяцца зблізку ад гары.*

## Самыя старыя людзі на сьвеце.



**Справа налева: турчанка Фацьма Ханум, цяпер ёй 164 гады; індыец Нам-Нах-Скук—118 гадоў і індыянка Наг-Нее—107 гадоў.**

**ЦАНА 12 кап**

# ПАДУМАЙ.

### Аслабанеце зьвязаных.

Два піонэры зьвязаны вяроўкамі за рукі так, што вяроўкі перакрыжоўваюцца паміж сабой (гл. малюнак).

Трэба разьяднаць зьвязаных так, каб ня рваць і ня рэзаць вяроўкі.



## ЖАРТЫ.

### 1. Размова.

Пякла маці бліны, а сынок Яська ўсё ля яе круціўся. Потым Яська кажа:

— Чаму вы, мамка, са мною не гаворыце?

— Дык бачыш-жа, што некалі! — адказвае маці.—Ды і што там я буду табе гаварыць?

— Ды от што-небудзь, от сказалі-б: „вось, на табе, Яська, блінчыка!"

### 2. Большая жменя.

— Мама! Я прашу гарэхаў.

— Добра, дачушка! Вазьмі сабе поўную жменю.

— Аж поўную жменю?! Дык вы, мамачка, дайце самі. Ваша жменя большая.

### Загадкі - жарты.

— На якую частку машыны трэба паглядзець, каб успомніць тое, чым царскі ўрад і абшарнікі спрабавалі ўціхамірыць рабочых і сялян?

— Якая каманда падаецца сотняю аднолькавых літар?

— Якая рэчка знаходзіцца ў нас у роце?

— Якая літара, далучаная да ракі СССР, дасьць траву?

### Калі быў 1-ы зьезд партыі?

Два піонэры паспрачаліся: у якім годзе быў 1-ы зьезд партыі.

Прышлі да павадыра, каб ён вырашыў, чый адказ правільны.

Выявілася, што абудва памыляліся.

— А ў якім годзе?—спытаў адзін піонэр.

Павадыр не адказаў ім проста, а такой задачай.

— Першая лічба — 1, другая — роўная чацьвертай, трэцяя на адзінку большая за другую. Калі ўсе лічбы скласьці, дык атрымаецца—26.

Ці правільна адказаў павадыр, і калі быў 1-ы зьезд?

### Хто злодзей?

На лініі Ленінград — Масква кожную зіму бясьсьледна прападае некалькі сот мэтраў тэлефоннага і тэлеграфнага дроту. К лету гэты дрот зноў аказваецца на сваім месцы.

Такім чынам, атрымліваецца, што тэлефонная лінія Ленінград—Масква зімой на 400—500 мэтраў карацей чым улетку.

Ад чаго гэта бывае?

### Загадка.

Прышоў хтось, ухапіў штось.
Ганіся за ім, нямаведама за кім.

### 6 прадметаў.

У акружыне намалявана 6 прадметаў; аднімі ад назвы кожнага прадмету па аднэй літары і складзі з іх прозьвішча пастуха—гэроя Чырвонай арміі.





1-я друкарня БДВ. Заказ № 441. У ліку 1550. Галоўлітбел № 181.